


*Свабода, справядлівасць, салідарнасць*

# ГРАМАДА

№24 красавік-травень 2001

Інфармацыйны бюлетэнь Гродзенскай гарадской арганізацыі Грамадскага Аб"яднання "МАЛАДАЯ ГРАМАДА"

**Досі ўжо, браты, чужынцам мы служылі,**
**Досі ўжо пашаны ім прыдбалі;**
**Не сваю — чужую долю баранілі,**
**Пад чужымі сьцягамі ўміралі.**
**Ты ня згаснеш, ясная зараначка.**
**Ты яшчэ асьвеціш родны край.**
**Беларусь мая! Краіна-браначка!**
**Ўстань, свабодны шлях сабе шукай**
***Максім Багдановіч (1915г.)***

## ТВОЙ ВЫБАР

Усе мы чуем з дня ў дзень: "Сённяшняя моладзь – апалітычная". Калі так, то для існуючай улады гэта – сапраўдны падарунак. Людзі сталага ўзросту ўсё роўна з'яўляюцца самымі актыўнымі выбаршчыкамі, такім чынам, на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі, за нас з вамі нехта выбярэ нашу будучыню.

Хочацца верыць, што сітуацыя карэнным чынам змянілася за апошнія некалькі год. Ужо не магчыма трываць савецкія замашкі ў кіраванні, падпарадкаванне ўсяго і ўся толькі адной асобе, урэшце, жыццёвы ўзровень, які апынуўся за 7 гадоў "ніжэй калена". Большасць па старой звычцы скажа: "А што я магу зрабіць? Я адзін нічога не вырашаю". Сапраўды, адзін у полі не воін, але калі такім чынам разважае большасць, то "лавіць" няма чаго.

Давайце ўявім іншую сітуацыю. Кожны з нас адчуў сваю значнасць у вырашэнні грамадска значнага пытання. Кожны з нас усведамляе сваю значнасць і адказнасць за ўсё, што адбываецца ў нашай краіне. Кожны з нас – асоба, а не нейкае абстрактнае "народ". Скажыце, калі ласка, ад каго ў такім выпадку будзе залежаць прынятае рашэнне?

Можна ўзгадаць зіму ў Чэхіі, калі новы дырэктар чэскага тэлебачання пачаў ажыццяўляць цэнзуру тэлевізійнай прадукцыі. Праз некалькі дзён на цэнтральнай плошчы ў дэмакратычнай краіне 100 тысяч пражан прыйшлі выказаць СВАЮ грамадскую пазіцыю па гэтым пытанні. Такой колькасці людзей было абсалютна неабыякава, што яны глядзяць па тэлебачанні. Ім неабыякавы тыя дэмакратычныя прынцыпы, якія былі Чэхіяй заваяваны за апошняе дзесяцігоддзе. Хутчэй за ўсё ў кожнага са 100 тысяч прысутных на акцыі пратэсту былі свае справы, праца, вучоба, але нягледзячы на гэта яны былі там. Вынік вядомы – кіраўніцтва было памененае. Хіба гэта не прыклад?

Літаральна праз тры месяцы адбудзецца лёсавырашальная для **НАШАЙ З ВАМІ КРАІНЫ** падзея – прэзідэнцкія выбары. Толькі ад нас, маладых людзей, залежыць у якой краіне мы прачнёмся 10 верасня 2001 года. Толькі кожны з нас можа выбраць паміж абыякавасцю і мэтанакіраванасцю, таталітарызмам і дэмакратычнымі каштоўнасцямі, татальным кантролем і свабодай, жабрацтвам і дабрабытам.

## ЗРАБІ СВОЙ ВЫБАР!













**Налепкі, якія ўжо мабыць кожны бачыў на вуліцах горада, таксама патрабуюць выбіраць. Час думаць. Ці Вы хочаце, каб усё зрабілі за Вас і без Вас?**

# ПЕРШАМАЙ У ГРОДНЕ

Па словах адной спадарыні, якая наглядала за падзеямі ў Гродне падчас афіцыйнага мітынгу ў Дзень Працы: "Першамай 21 стагоддзя нічым не адрозніваўся ад тых, якія ладзіліся партыйнымі дзеячамі 20-30 гадоў таму". Сапраўды, з трыбун, як і раней, гучалі палымяныя прамовы накшталт: "Верной дорогой идем, товарищи!". Адметнасць жа падзеі ў тым, што Гродзенская аргані-зацыя БСДП-НГ сумесна з Маладой Грамадой і незалежнымі праф-саюзамі, пры ўдзеле мясцовых арганізацый БНФ, Маладога Фронту, АГП вырашылі выказаць сваё меркаванне пра жыццёвы ўзровень і дабрабыт беларусаў, эканамічныя "дасягненні". Мітынг праводзіўся афіцыйна, прыняць удзел у якім меў магчымасць кожны грамадзянін. Праўда ў адрозненні ад сагнаных на плошчу Леніна студэнтаў, навучэнцаў, працоўных, прадстаўнікі дэмакратычных арга-нізацый святкавалі па сваёй волі. Нічога не прадвяшчала бурных падзей, якія пачаліся неўзабаве.

На пачатку мітынгу намесніца старшыні Гродзенскай Маладой Грамады была гвалтоўна заламана людзьмі ў цывільным. Яе вывалаклі праз усю плошчу да супрацоўнікаў у форме. Вінаватая дзяўчына была ў тым, што раздавала ўлёткі, трымала сцяг Маладой Грамады і бел-чырвона-белы сцяжок паме-рам 25 на 15 см. На падступах да плошчы з дрэўкамі, сцягамі БНФ і АГП былі затрыманыя двое. Усе рэчы былі канфіскаваныя да высвятлення. Пазней былі затрыманыя яшчэ некалькі чалавек, у тым ліку лідар Маладой Грамады Валянцін Аскірка, актывіст незалежнага прафсаюзу Айрапецьян М., старшыня рэгіянальнай арганізацыі БСДП-НГ Патрэба М., а таксама журналісты "Пагоні", "Біржы інфармацыі".

З усіх узялі пісьмовыя тлумачэнні і праз паўтары гадзіны выпусцілі. На Аскірку ж быў складзены пратакол аб парушэнні артыкулаў 156 (дробнае хуліганства) і 166 (непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі). Як аказалася, дробнае хуліганства складалася з таго, што Валянцін хацеў начапіць лозунг, зместам якога міліцыянты нават не пазнаёміліся. Пасля гэтага, не прадставіўшыся, вывалаклі да "бобіка" на край плошчы.

Суд над Аскіркам В. цягнуўся з 2 па 22 мая. У выніку разбіральніцтва і тлумачэнняў 11 сведкаў ён быў прызнаны вінаватым, але з-за дробнасці парушэння адміністра-тыўную справу прыпынілі. У пастанове суда гаворыцца, што сведкі з боку "парушальніка" імкнуліся не дапусціць адміністра-тыўнага пакарання Аскіркі і таму былі адкінутыя. Затое сведчанні пяці астатніх сведкаў, якія гаварылі ад "гэтых бэнээфаўцаў саджаць і страляць трэба", "ён называў нас камуністамі", "трэба ачысціць бела-рускую зямлю ад такіх нечысціў-цаў", да "хацеў пабіць палкамі натоўп", "абражаў супрацоўнікаў міліцыі" і нават супрацьлеглых выказванняў, якія ўдалося пачуць падчас суду, былі расцэненыя як "спалучаюцца і стыкуюцца".

Яшчэ 1 мая, адразу пасля затрымання, Святлана Нех зняла пабоі, якія засталіся на яе пальцах і руках у траўмапункце. На наступны дзень пачаліся незразумелыя рэчы: яе выклікаюць у РАУС для тлумачэнняў. У выніку дзвюх сустрэч, на Святлану былі складзеныя два пратаколы за "выкарыстанне незарэгістраванай сімволікі", "непадпарадкаванне законным дзеяннямсупрацоўнікам міліцыі". Сведкі з боку міліцыі так і не здолелі патлумачыць суду: чаму пратаколы складзеныя толькі 4 мая. Абвя-шчэнне рашэння суда па гэтай справе адбылося 23 мая. Суддзя Дземчанка на гэты раз адкрыта гандляваўся са сваім сумленнем. Святлана атрымала чарговы штраф – 10 мінімальных заробкаў.

Ул. інф.

# ПЕРШАМАЙ У БЕРЛІНЕ

З 27 красавіка па 5 мая ў г. Вертфул пад Берлінам адбываўся міжнародны семінар на тэму "Антырасізм". Яго ўдзельнікамі былі маладыя сацыял-дэмакраты і сацыя-лісты з Беларусі, Польшчы, Літвы, Вен-грыі, Славакіі, Славеніі, Швецыі, Германіі. Беларуская дэлегацыя складалася з трох чалавек. Семінар праходзіў пад лозунгамі: "Расізму - не!", "Кожны чалавек - прыго-жы", "Не дыскрымінацыі", "Не гвалту".

Антырасізм сёння - гэта не супраць-дзеянне імперыялістычнай ненавуковай дактрыне аб непаўнавартасці некаторых расаў - яна ўжо абвергнута не толькі навукова, але і самім жыццём, - але барацьба супраць дыскрымінацыі нацыянальных меншасцяў, бежанцаў, іншых сацыяльных групаў.

Удзельнікі семінару распавядалі пра становішча такіх групаў людзей у іхніх краінах. Нам, на жаль, прышлося канста-таваць, што ў Беларусі такая дыскрыміна-цыя ў культурным плане тычыцца ў першую чаргу не нацыянальных мен-шасцяў, а саміх беларусаў. Бо ці ж не праўда, што ў Гродне няма на сённяшні дзень ніводнай цалкам беларускамоўнай школы, ва ўсёй Беларусі - ніводнай беларускамоўнай ВНУ. Ці ж гэта не сапраўдная дыскрымінацыя?!

Падчас семінару перад удзельнікамі ставіліся праблемныя пытанні рознага кшталту. Мы былі нібыта ўрадам нейкай краіны N і вырашалі гэтыя праблемы. Правялі і гульню "Капіталізм", у якой кожны ўдзельнік быў або працоўным, або наймальнікам, іншаземцам ці бежанцам. Гэта дазволіла ўдзельнікам зразумець як адмоўныя бакі капіталізму, так і яго некаторыя перавагі. У другой палове дня ўдзельнікі працавалі па групах, кожная з якіх стварала свой "прадукт": газету, фотаздымкі, тэатральную пастаноўку, відэафільм, сайт у інтэрнэце на тэму "Антырасізм". Увесь астатні вольны час мы праводзілі таксама разам і было так прыемна адчуваць сябе вольным сярод вольных людзей у вольнай краіне.

Першае мая семінарысты правялі ў Берліне. У горадзе адчуваўся святочны настрой. Людзі розных нацыянальнасцяў выйшлі на дэманстрацыю. Разам з іншымі сцягамі годна і вольна лунаў і сцяг "Мала-дой Грамады". Гэта былі ўрачыстыя хвіліны. Мы, як прадстаўнікі беларускай сацыял-дэмакратыі, адчувалі сябе паўнавартаснай часткай свету, пачуццё, абсалютна немажлівае дома ў Беларусі. Пасля шэсця пачаліся шматлікія святоч-ныя імпрэзы. На плошчы перад мэрыяй Берліна танцавалі нацыянальныя танцы, гучала музыка і смех. Удзел у гэтым сапраўды міжнародным, сапраўды свяце быў кульмінацыяй прыемных уражанняў, якія мы атрымалі падчас 10-дзённага семінару.

***Вольга Філіповіч***

# Навіны

## АДБОРАЧНЫ ТУР БАСОВІШЧА

21-22 чэрвеня ў Менску ў клюбе «Танэль» (Пушкіна, 28) пройдзе адборачны тур маладых гуртоў на фэст «Басовішча' 2001» За правa паехаць на фэст будуць змагацца: Імпэтт, Галіна Бэзу, Aguamorta, Правакацыя, Голая манашка (Менск), Твар, Pet Nihil - Tohotoc (Горадня), Мэтро (Жодзіна), БН (Бяроза), Анархасіс (Столін), Homoerectus (Гомель), Сьцяг (Горкі), Rum and Ice (Маладзечна) і інш. Алесь Таболіч (Зьніч) прадставіць свой супольны хардкор праект з гуртом Splenetic. У канцэрце таксама возьмуць удзел зоркі беларускага рока: Zet, Зьніч, Happy Face. Пачатак а 18.00. Кошт квітка 2000, на 2 дні 3000. Даведкі і замовы квіткоў праз папярэдні продаж: 2118585 (аб. БМА), 2490888.

Мяркуецца правесьці прэсавую канфэрэнцыю з удзелам прадстаўнікоў Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў - арганізатараў «Басовішча». Акрэдытавацца і атрымаць дадатковую інфармацыю можна па вышэй пазначаных тэлефонах.

## МІЖНАРОДНЫ ЛЕТНІ ІНТЭГРАЦЫЙНЫ ФЭСТ «КРУГЛАЕ ВОЗЕРА-2001»

З 24 ліпеня па 2 жніўня 2001 года адбудзецца Міжнароды летні інтэграцыйны фэст «Круглае возера-2001». Форма правядзеньня - летнік (у намётах) на 70 асобаў.

Месца правядзеньня - Плешчаніцкае вадасховішча

Удзельнікі - моладзь ад 16 да 35 гадоў, людзі з абмежаванымі фізычнымі магчымасьцямі і безь іх.

Гэта ўжо трэці летнік, які ладзіць грамадзкая арганізацыя «Розныя - Роўныя». Першыя два летнікі праходзілі на возеры Швакшты (1999) і Белым возеры (2000). Мэта правядзеньня летніка - інтэграцыя здаровых маладых людзей і людзей з абмежаванымі фізычнымі магчымасьцямі. Летнік мае экалягічную скіраванасьць. У 2000 годзе пад час летніку была створаная экалягічная сьцяжына на Белым возеры - ўнікальным прыродным запаведніку, дзе на плошчы ў 200 мэтраў можна сустрэць усе віды расьлінаў, што растуць на Беларусі. Удзельнікі летніка рабілі калодзежы з прыроднымі фільтрамі з моха сфагнума, ладзілі жыльлё для птушак са старых паваленых дрэваў. Удзельнікі летніка імкнуцца жыць у міры і гармоніі з прыродай.

Сёлета летнік будзе мець таксама адукацыйны аспэкт. У праграме летнікаправядзеньне сэмінараў на тэмы:»Што такое НДА і што такое НДА ў Беларусі?» «Мэты, задачы і віды дзейнасьці НДА», «Каманда, лідарства, канфліктaлёгія і праектаваньне», «Экалёгія як накірункак дзейнасьць НДА».

Да ўдзелу ў летніку запрашаюцца ўсе, хто жадае. Для ўдзелу неабходна запоўніць анкету.

Кантактныя тэлефоны: (017) 2684817 e-mail: different@nsys.by (Коласава Тацьцяна, Калошкін Вадзім).

## ЗБМ «ЭЎРАПЕЙСКІ ШЛЯХ» ЗАПРАШАЕ НАВЕДАЦЬ КАЛЬВАРЫЙСКІЯ МОГІЛКІ Ў МЕНСКУ

Апошнім часам у Менску ўзьнікла пагроза страты помніка гісторыі і нацыянальнай памяці - старадаўніх Кальварыйскіх могілак. Гэта незвычайны цьвінтар і ўнікальны мэмарыял з 200-гадовай гісторыяй. Апроч помнікаў архітэктуры - неагатычнага касьцёлу і клясыцыстычнай уваходнай брамы - тут знаходзіцца мноства каплічак і надмагільных помнікаў вядомых беларускіх шляхецкіх родаў: Вайніловічаў, Ваньковічаў, Луцкевічаў, Храпавіцкіх, Чачотаў. Многія з гэтых імёнаў шырока праславілі Беларусь: мастак Ян Дамель, паэт Янка Лучына, грамадзка-палітычны дзеяч Вацлаў Івануоўскі і інш.

Некалькі гадоў таму гарадзкія ўлады (пасьля 30-гадовага перапынку) дазволілі тут пахаваньні за грошы. Пры гэтым пачалі зьнішчацца старадаўнія помнікі і крыжы, якія маюць гістарычнае значэньне. У выніку мэмарыялу пагражае зьнішчэньне.

24 чэрвеня а 16.00 Згуртаваньне Беларускай Моладзі «Эўрапейскі шлях» запрашае сваіх аднадумцаў да сумеснага наведваньня Кальварыйскіх могілкаў для азнаямленьня зь іх гісторыяй і сучасным станам. Збор каля Брамы. Экскурсію па могілках правядуць вядомыя гісторыкі і краязнаўцы Менска.

## У КОЙДАНАВЕ БЫЛІ ЗАТРЫМАНЫЯ ПЯЦЬ СЯБРАЎ АГП

15 чэрвеня ў Дзяржынску (Менская вобласьць) былі затрыманыя пяцёра ўдзельнікаў акцыі «Хочам ведаць праўду», сярод якіх лідар АГП Анатоль Лябедзька, прадстаўнік Беларускага Аб'яднаньня маладых палітыкаў Уладзімер Радзі-вончык, лідар моладзі АГП Алесь Карніенка. Акцыя адбывалася на мясцовым рынку. Жыхарам горада раздавалі спэцвыпуск газэты «Народная воля», прысьвечаны зьнікненьню вядомых палітычных дзеячаў. На рынак прыехалі сем машынаў праваахоўчых органаў.

Тых, хто быў затрыманы адпусьцілі праз паўтары гадзіны.

Уладзіміру Радзівончыку пры затрыманьні паведамілі, што ён абвінавачваецца ў тэрарызме: маўляў, нядаўна на рынку была ўзарваная граната.

«Чаму я, не парушаючы законаў, не магу распаўсюджваць інфармацыю пра тое, што ў нас у дзяржаве склаўся рэжым, пры якім могуць зьнікаць людзі. Я выйшаў для таго, каб са мной і зь іншымі людзьмі такога больш ніколі не адбывалася», - сказаў Уладзімер Радзівончык.

Па словах аднаго з затрыманых, Уладзімера Малахава, «Народнай волі» ў кіёсках горада няма, і мы, калі хочаце, такім чынам закрывалі прабелы ў інфармацыйным полі».

## ПАЛОВА ВІРТУАЛЬНЫХ ЗЛАЧЫНСТВАЎ СНД РОБЯЦЦА Ў МЕНСКУ

11 траўня ў адным з судоў г. Менска асуджаны на чатыры гады зьняволеньня 21-гадовы студэнт, які быў абвінавачаны ў крадзяжах пры дапамозе кампутаровых тэхналёгіяў, паведаміла інфармацыйнае агенцтва Інтэрфакс. Сдудэнт аднаго з эканамічных вузаў накраў зь інтэрнэт-крамаў па ўсім сьвеце тавараў на суму каля 30 тысячаў даляраў ЗША.

Паводле ацэнак заходніх спэцыялістаў, больш за 50% віртуальных злачынстваў, што ўчыняюцца хакерамі краінаў СНД, маюць менскі сьлед.

Гэта першы выпадак ў Беларусі, калі асуджаны чалавек па абвінавачваньню ў хакерстве.

**Па матэрыялах BARC**

## CD «МУЗЫКІ СУПРАЦЬ ФАШЫЗМА І РАСІЗМА»

Гарадзенская іМенская БМА плянуе выдаць да 9 лістапада (Сусьветнага Дня барацьбы з расізмам) CD «Музыкі супраць фашызма і расізма».

На кампакце маюць быць, як беларускія так і эўрапейскія гурты, якія адтрымліваюцца антыфашыстоўскіх поглядаў. Беларускіх гуртоў, якія хочуць прыняць удзел у дадзенай кампеляцыі просім зьвязвацца: 230003, Горадня-3, а/с 110, e-mail: bma_garodnia@tut.by ці antyfa_gr@tut.by тэл. у Горадні(01522)2-34-68

Усе зацікаўленыя арганізацыі, якія могуць нейкім чынам дапамагчы пры выданьні і распаўсюдзе дадзенага дыску, просім зьвязвацца па вышэй пазначаным адрасе. Наступнымі приступкамі для распаўсюду нашых ідэяў будзе выданьне дадзенай кампеляцыі ў касэтным выглядзе.

*Андрэй Мялешка*

# Інвестыцыйны клімат у Рэспубліцы Беларусь.

**Ацэнка сітуацыі і перспектывы паляпшэння.**

Інвестыцыйны клімат азначае спрыяльныя або неспрыяльныя ўмовы ў пэўнай краіне для прыцягнення капіталу. Існуе шэраг эканамічных, прававых і геафізічных фактараў, якія фармуюць гэты клімат. Прааналізуем іх на прыкладзе Беларусі.

**Напачатку разгледзім эканамічныя фактары.**

Афіцыйная статыстыка РБ сведчыць аб наяўнасці эканамічнага росту ў краіне і паляпшэнні паказчыкаў па прамысловасці і сельскай гаспадарцы. Але грунтоўны аналіз паказвае, што забяспечваюцца гэтыя паказчыкі, па-першае, бартэрам з Расіяй і іншымі краінамі СНД, пры якім парушаецца парытэт цэн, па-другое, дырэктыўнымі метадамі. Напрыклад, існуе ўказанне „зверху" трактарнаму заводу выпускаць прадукцыю, хоць няма на яе попыту на рынку. Такая прадукцыя пойдзе на склад. Тым самым забяспечваецца рост выпушчанай прадукцыі, у дадзеным выпадку трактараў, але ў выніку каля 30% прадукцыі ў РБ знаходзіцца на складах.

Характарызуючы створаную эканамічную сітуацыю на Беларусі, трэба зазначыць, што да нядаўняга часу было мноства абменных курсаў, і толькі цяпер дасягнуты адзіны курс нацыянальнай валюты. Прагназуюць, што гэты курс ў адносінах да USD у бліжэйшы час дасягне 3000 беларускіх рублёў, калі не будуць праведзены адпадпаведныя эканамічныя пераўтварэнні. Узровень цэнаў у краіне ўвесь час расце, заробкі нізкія, прадпрымальніцтва не падтрымоўваецца, на Беларусі змагаюцца не з беднасцю, а з багаццем. У 1999 годзе інфляцыя склала 350%, хоць у краінах са здаровай эканомікай – 3-5% у год. У нас пастаянна зніжаецца колькасць насельніцтва. Беларусь мае нязначную ўдзельную вагу ў сусветным тавараабароце. Існуе дэфіцыт гандлёвага балансу ў 1,5 млрд USD. 60% беларускага тавараабароту прыходзіцца на Расею, дзе мы закупаем сыравіну, а прадаем прадукцыю прамысловасці і сельскай гаспадаркі. У асноўным на экспарт ідуць тавары такіх прадпрыемстваў, як БМЗ у Жлобіне (металічныя пруты, рэйкі), „Хімвалакно", ДВА „Азот", а таксама трактары, грузавыя аўтамабілі і інш. Ацэньваючы працоўныя рэсурсы, можна зазначыць, што Беларусь мае вялікі запас высокакваліфікаванай працоўнай сілы.

**Далей разгледзім прававыя фактары.**

Беларускі Парламент не прызнаны большасцю развітых краін, яго называюць аддзелам адміністрацыі прэзідэнта. Такі Парламент не можа ствараць законы рыначнага характару. Інвестары гэта бачаць. Акрамя таго, паўнамоцтвы Лукашэнкі беспадстаўна працягнуты на два гады, а яго дэкрэты і ўказы маюць сілу закона. Грамадства расколата.

У нашай краіне інвестыцыйнага заканадаўства фактычна няма, інвенстыцыйны кодэкс распрацаваны, але не прыняты. Налогі вялікія, увесь час мяняюцца, акрамя гэтага яны могуць быць назначаны заднім чыслом.

На Беларусі няма прыватнай уласнасці на зямлю. Калхозы знаходзяцца ў заняпадзе. Падсобныя гаспадаркі даюць да 60% некаторых відаў прадукцыі. У краіне існуе мінімум прыватных прадпрыемстваў.

**Пяройдзем да геафізічных фактараў.**

Беларусь знаходзіцца ў выгадным геаграфічным становішчы. З гэтага можна было б атрымаць шмат карысці, вялікія грошы. Але ўжо цяпер многія сталі ездзіць у абход нашай тэрыторыі, бо стаўкі пошлін пры перасячэнні мяжы вельмі вялікія. Агульнай мяжы з развітымі краінамі ЕС у нас няма. Мяжуем з краінамі, эканоміка якіх дынамічна развіваецца (Польша, Літва). Прыродных рэсурсаў на Беларусі практычна няма.

Такім чынам, многія з пералічаных фактараў уплываюць на фарміраванне неспрыяльнага інвестыцыйнага клімату. Але на Беларусі ёсць некаторы інвестыцыйны патэнцыял – аб'ектыўныя магчымасці краіны, рэгіёну па прыцягненню інвестыцый. Гэта перш за ўсё інтэлектуальны патэнцыял, які застаецца незапатрабаваным, а таксама вытворчы патэнцыял. На беларускіх прадпрыемствах знаходзіцца маральна і фізічна ўстарэлае абсталяванне, у апошнія дзесяцігоддзі адсутнічалі значныя тэхналагічныя змены, што дае шырокае поле для інвестыцыйнай дзейнасці. У той жа час на Беларусі існуе вельмі высокая інвестыцыйная рызыка – эканамічная, палітычная, сацыяльная, экалагічная (вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС). У рэйтынгу інвестыцыйнай рызыкі па ўсім краінам Беларусь займае 145 месца. Лукашэнка і яго падначаленыя запрашаюць замежных інвестараў, абяцаюць ім ільготнае падаткаабкладанне. Дык чаму ж патэнцыйныя замежныя партнёры адмаўляюцца? Відавочна. У краіне, у якой не падтрымоўваюцца нацыянальныя інвестары, не трэба разлічваць на ільготы для замежнікаў. Замежныя інвестары ведаюць, што будуць падмануты, што апынуцца ў пастцы пасля таго, як аддадуць свае грошы.

Такім чынам, нам неабходна правесці рашучыя эканамічныя пераўтварэнні, выйсці з палітычнай, фінансавай, інвестыцыйнай самаізаляцыі ад багатага цывілізаванага свету, узнавіць шчыльнае супрацоўніцтва з МВФ і ЕБРР. Толькі так можна вырашыць праблему прамых інвестыцый, крэдытаў на развіццё, забяспечыць тэхпераўзбраенне і ўкараненне найноўшых тэхналогій, развіццё малога і сярэдняга бізнэсу, павысіць канкурэнтаздольнасць тавараў і рэнтабельнасць вытворчасці. Варта павучыцца ў краін з падобнымі зыходнымі дадзенымі (Польша, Чэхія). Да прыкладу, палякі павялічылі выпуск нацыянальнага прадукта да 6000 USD на чалавека ў год, чэхі – звыш 12000 USD на аднаго чалавека . У нас жа аналагічны паказчык складае прыкладна 1200-1500 USD. А яшчэ на пачатку 90-х гадоў Беларусь па гэтаму паказчыку была наперадзе Польшчы. Палякі пайшлі на рэформы – перажылі так званую "шокавую тэрапію" – і цяпер жывуць лепш беларусаў. Мы ж атрымоўваем з года ў год шок, але без тэрапіі.

*Вольга Філіповіч*

# ЗАЯВА

Асамблея дэмакратычных недзяржаных арганізацыяў Беларусі выказвае занепакоенасьць у сувязі з нападам на прадстаўнікоў грамадскага аб'яднаньня "Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў", што адбыўся 7 чэрвеня 2001 году ў Гомлі. Яшчэ больш негатыўнае адценьне дадзенаму інцыдэнту надае той факт, што напад быў зьдзейсьнены з боку супрацоўнікаў адміністрацыі Гомельскага Дзяржаўнага Ўнівэрсітэта падчас распаўсюджваньня сябрамі "Задзі-ночаньня Беларускіх Студэнтаў" афіцыйна зарэгістраванай "Студэнцкай газэты". Выклікае зьдзіўленьне той факт, што хоць выканаўцы гэтых дзеяньняў вядомыя, але дагэтуль не пакараныя, і з боку дзяржаўных ворганаў не прынята ніякіх захадаў да гэтага.

У адпаведнасьці з арт. 22 Закона "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях" грамадзкія аб'яднаньні маюць права беспераш-кодна распаўсюджваць інфармацыю, што мае дачыненьне да іх дзейнасьці. У адпаведнасьці з арт. 5 дадзенага закона дзяржава ня толькі ня ўмешваецца ў дзейнасьць грамадзкіх аб'яднаньняў, але і забясьпечвае захаваньне і абарону іх правоў і інтарэсаў. Інцыдэнт, што адбыўся 7 чэрвеня ў Гомлі, падкрэслівае факт негатыўнага стаўленьня дзяржаўных ворганаў і службоўцаў да арганізацыяў трэцяга сэктару і зьяўляецца прамым парушэньнем артыкулаў 5 і 22 Закону "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях".

Існаваньне арганізацыяў трэцяга сэктару зьяўляецца неабхонаў умовай існаваньня дэмакратычнага грамадзтва. Права на стварэньне і дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў гарантавана арт. 36 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і арт. 26 Усеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека. У адпаведнасьці з арт. 2 Канстытуцыі дзяржава вызнае вакананьне правоў і свабодаў грамадзянаў за найвышэйшую каштоўнасьць і ствараe неабходныя ўмовы да іх рэалізацыі.

Напад на сябраў "Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў" зьяўляецца адным з шматлікіх прыкладаў ціску дзяржаўных ворганаў на грамадзкія арганізацыі. Ва ўмовах жорсткіх, незаконных адносінаў прадстаўнікоў дзяржаўных структур да сябраў грамадзкіх арганізацыяў існаваньне вольных, незалежных і самастойных аб'яднаньняў грамадзянаў ставіцца пад пагрозу.

Асамблея дэмакратычных недзяржаных арганізацыяў Беларусі заклікае праваахоўныя ворганы правесьці галоснае, незалежнае, аб'ектыўнае і апэратыўнае расьледваньне інцыдэнту, што меў месца ў Гомлі 7 чэрвеня 2001 году з сябрамі грамадзкага аб'яднаньня "Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў".

Асамблея дэмакратычных недзяржаных арганізацыяў Беларусі заклікае ўсе дзяржаўныя ворганы спыніць ціск на грамадзкія аб'яднаньні і забясьпечыць выкананьне арт. 36 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Закона "Аб грамадзскіх аб'яднаньнях".

# Закон на баку беларускамоўных

Кіраўніцтва Таварыства беларускае мовы імя Францішка Скарыны даслала генэральнаму пракурору В. Шэйману й міністру ўнутраных справаў У. Навумаву ліст, у якім выказвае пратэст з нагоды фактаў уціску правоў беларускамоўных грамадзянаў дзяржаўнымі службоўцамі. У лісьце паведамляецца пра затрыманьне 29 траўня міліцыянтамі групы літаратараў (Лявона Баршчэўскага, Міхася Скоблы, Антаніны Хатэнкі, Алеся Пашкевіча, Барыса Пятровіча, Эдуарда Акуліна), якіх супрацоўнікі праваахоўных органаў праз пагрозы змушалі гаварыць па-расейску. Пры гэтым быў парушаны арт. 172 п. 2 Кодэксу адміністрацыйных правапарушэньняў. Інцыдэнт зь пісьменьнікамі не адзіны ў шэрагу фактаў ігнараваньня правоў беларускамоўных у Беларусі.

**Віктар Мухін**

Найчасьцей правы беларускамоўных парушаюць у судох, на пошце, у ашчадных касах, у банках, у жыльлёва-эксплюатацыйных службах. Дагэтуль няма ніводнага факту прыцягненьня да адказнасьці службовых асобаў за парушэньне правоў грамадзянаў, якія карыстаюцца роднаю моваю. Як жа абараніцца ад нападаў службоўцаў, якія не шануюць роднага слова? Радзіць Людміла Дзіцэвіч, намесьніца старшыні ТБМ: «Калі я іду ў ашчадную касу й запаўняю блянк па-беларуску, а ў мяне яго не прымаюць, - я зьвяртаюся да людзей, якія стаяць побач са мною й прашу пацьвердзіць факт адмовы прыняць у мяне напісаны па-беларуску дакумэнт. Калі людзі згаджаюцца пацьвердзіць гэта, - я складаю акт, высьвятляю прозьвішча - хто, дзе, што й калі сказаў, прашу сьведкаў падпісацца й падаю акт у Пракуратуру з просьбаю разабрацца ў гэтай справе».

Факты, што сьведчаць пра ўціск беларускамоўных, кіраўніцтва ТБМ расцэньвае як «дэстабілізацыйныя». Прыкладам, напачатку лета на некалькіх станцыях сталічнага мэтро цішком зьмянілі паказьнікі - беларускамоўныя й дзьвюхмоўныя на расейскамоўныя. ТБМ скіравала лісты ў адпаведныя ўстановы з патрабаваньнем аднавіць дзьвюхмоўныя шыльды. Рэакцыі пакуль няма.

Калі недзе парушылі Вашае права на карыстаньне роднаю моваю, галоўнае - не сварыцца, а фіксаваць парушэньне. Галоўнае - «закруціць справу», а далей хай разьбіраецца Пракуратура й суд: гэта іх абавязак - бараніць правы грамадзянаў. Ведама, ня ўсе гатовыя, найперш псыхалягічна, самастойна бараніць свае правы. Па дапамогу можна зьвярнуцца ў ТБМ на адрас: Менск, вул. Румянцава, 13 (раён пл. Перамогі); тэлефон і факс: 284-85-11.

***Па матэрыялах Радыё Рацыя***

# Витебские зубры открывают дачный сезон

Активисты молодежного движения сопротивления ЗУБР начали кампанию под названием «Дачник - тоже человек» в минувшую субботу. В переполненных вагонах пригородных дизелей помимо обычных бабушек, продающих кроссворды и анекдоты, появились энергичные парни в майках ЗУБРа с надписью «ВРЕМЯ ВЫБИРАТЬ!», которые распространяли спецвыпуск газеты «Наша Свабода».

Аналогичная акция проводится и в городском транспорте. Уже неделю в троллейбусах и автобусах действуют летучие пикеты: в автобус, троллейбус или трамвай заходят несколько человек, часть из которых раздает газеты, а другая часть обклеивает наклейками салон. Такие акции чрезвычайно эффективны: (только в одних троллейбусах по статистике троллейбусно-трамвайного управления перевозится 220 000 человек) и практически безопасны.

# 18-23 ЧЭРВЕНЯ Ў МЕНСКУ ПРОЙДЗЕ ФЕСТЫВАЛЬ КАРЭЙСКАГА КІНО

З 18 па 23 чэрвеня ў Менску пройдзе фестываль карэйскага кіно, арганізаваны пасольствам Рэспублікі Карэя, Міністэрствам культуры Беларусі і асацыяцыяй «Кінаклуб».

Кінапаказ пачнецца карцінай аб Карэйскай вайне пачатку 50-х гадоў «Вясна ў родным горадзе». Будуць таксама прэзэнтаваныя фільмы «Каляды ў жніўні», «Сувязі», «Ліст», «Кватэры 301 і 302», «Дзень, калі свіньня ўпала ў студню». Уваход на ўсе сэансы - свабодны.

Фільмы дэманструюцца ў кінатэатры «Перамога»

# РЫКСДАГ (Шведскі парламент)

SVERIGES RIKSDAG
THE SWEDISH PARLIAMENT

Швецыя атрымала свой першы Акт аб форме праўлення ў 1634 годзе. Да гэтага часу ў краіне ўжо больш за 100 гадоў існаваў рыксдаг з прадстаўнікамі ўсіх саслоўяў грамадства. Пры афармленні будынка дзвюпалатнага рыксдага, будаўніцтва якога завершылася ў 1904 годзе, ахітэктар усталяваў скульптуры селяніна, шляхціча, святара і двараніна над галоўным уваходам. Аднак ні пра якую дэмакратыю ў сённяшнім разуменні гэтага слова не даводзілася гаварыць у Швецыі да 1921 года, калі і жанчыны, і мужчыны ўпершыню атрымалі права голасу на парламенцкіх выбарах, не залежна ад іх грамадскага палажэння або памеру маёмасці.

Падчас выбараў ля ўвахода на выбарчы ўчастак партыйныя работнікі да апошняга моманту імкнуцца прыцягнуць выбаршчыкаў на бок сваіх партый. Выбаршчык укладвае выбарчыя бюлетэні ў спецыяльныя канверты, а затым іх аддае адказнаму за правядзенне выбараў, які іх апускае ў розныя аддзелы выбарчай скрыні – адна для выбараў у рыксдаг, адна для рэгіянальных выбараў (ландстынгі), адна для выбараў у мясцовыя органы ўлады.

Рыксдаг Швецыі мае самую буйную долю дэпутатаў-жанчын з усіх парламентаў свету, 43 працэнты.

Былыя залы паседжанняў першай і другой палаты рыксдагу сёння выкарыстоўваюцца як залы паседжанняў для дзвюх буйнейшых партыйных фракцый рыксдагу.

**Размеркаванне дэпутатскіх месцаў па выніках выбараў 1998 года**

| | Жанчыны | мужчыны | усяго |
|---|---|---|---|
| Сацыял-дэмакратычная рабочая партыя | 65 | 66 | 131 |
| Умераная партыя | 25 | 57 | 82 |
| Левая партыя | 18 | 25 | 43 |
| Хрысціянскія дэмакраты | 17 | 25 | 42 |
| Партыя цэнтру | 10 | 8 | 18 |
| Народная партыя (лібералы) | 6 | 11 | 17 |
| Партыя аховы навакольнага асяроддзя (зялёныя) | 8 | 8 | 16 |
| **Разам** | **149** | **200** | **349** |

**Дарадчыя рэферэндумы:**
1922 – аб забароне алкагольных напояў
1955 – аб правабаковым вулічным руху
1957 – аб усеагульнай дадатковай пенсіі
1980 – аб выкарыстанні ядзернай энэргіі
1994 - аб сяброўстве Швецыі ў ЕС

Новае штогадовае скліканне рыксдагу кожную восень урачыста адкрывае кароль, галава шведскай дзяржавы. Старшыня рыксдагу займае другую па рангу пасаду ў краіне, на сённяшні дзень гэтую пасаду займае жанчына, Брыгіта Даль. Яна стала дэпутатам ад сацыял-дэмакратаў яшчэ ў 1969 годзе, на працягу дзевяці гадоў займала розныя міністэрскія пасады ва ўрадзе. Першым намеснікам старшыні з'яўляецца прадстаўнік умеранай партыі Андэрс Бьёрк. Эва Сэтэрберг ад левай партыі займае пасаду другога намесніка старшыні рыксдагу, а Рос-Мары Фрэбран ад хрысціянскіх дэмакратаў – пасаду трэцяга намесніка.

**Пастаянныя камісіі рыксдагу:**
Камісія па жыллёвых пытаннях
Камісія па заканадаўству
Камісія па замежных справах
Канстытуцыйная камісія
Камісія па культуры
Камісія па падатках
Камісія па абароне
Камісія па адукацыі
Камісія па прамысловасці і гандлі
Камісія па пытаннях рынку працы
Камісія па сацыяльнай абароне і ахове здароўя
Камісія па сацыяльным страхаванні
Камісія па транспарце і сувязі
Камісія па фінансах
Камісія па экалогіі і сельскакй гаспадарцы
Камісія па справах юстыцыі

Пастаянныя камісіі маюць свае паседжанні раз-два на тыдзень. Агуль-ная колькасць пасадаў старшынь і намеснікаў камісій размяркоўваецца прапарцыянальна паміж партыямі. У перапынках паміж паседжаннямі дэпутаты могуць у спакоі чытаць газеты і часопісы з усіх куткоў Швецыі і свету.

Падчас кожнага склікання рыксдагу пастаянныя камісіі арганізоў-ваюць шэраг слуханняў з удзелам запрошаных экспертаў і службовых асобаў. У палаце збіраюцца дэпутаты рыксдагу пад старшынствам старшыні для дэбатаў і прыняцця рашэнняў. Дэпутаты збіраюцца на пленарныя паседжанні ў палаце, дзе яны размерка-ваны па выбарчых участках, а не па партыйнай прыналежнасці, як у боль-шасці парламентаў свету. Гэта азначае, што дэпутаты ад розных партый сядзяць разам. Прадугледжаны месцы для грамадскасці і прэсы, адкуль яны могуць слухаць выступаючых дэпута-таў, сачыць за дэбатамі і за галасаван-нямі па разнастайных пытаннях.

Падчас дэбатаў па сістэме "пытанне-адказ" у палаце члены ўрада адказваюць на пытанні дэпутатаў адразу. Гэта вельмі істотная магчы-масць для атрымання інфармацыі па актуальных пытаннях і, такім чынам, прымушаць міністраў адказваць за свае дзеянні. Дэпутаты просяць слова шляхам уставання з месца, і старшыня як можа больш справядліва прада-стаўляе ім слова.

Канстытуцыйная камісія ў адпа-веднасці з актам аб форме кіравання павінна кантраляваць "выкананне службовых абавязкаў членамі ўраду і ажыццяўленне спраў, якія адносяцца да кампетэнцыі ўрада" і пры неабход-насці запрашае, напрыклад, члена ўраду, каб той адказаў перад ёй на пытанні адносна працы ва ўрадзе.

Пры вырашэнні пытання шля-хам галасавання старшыня спачатку просіць падняцца дэпутатаў, якія галасуюць "за", затым, хто "супраць". Калі не відавочна, якое меркаванне атрымала большасць, неабходна падлічыць галасы з дапамогай электронных прыстасаванняў. На спецыяльным табло можна бачыць вынікі галасавання, а таксама, як кожны дэпутат галасаваў. Пасля гэтага прымаецца рашэнне палаты і фіксуецца ўдарам малатка. Уздоўж сценаў у Бібліятэцы рыксдага выстраі-ліся многія метры заканадаўчых актаў, рашэнняў. Ёсць магчымасць таксама весці пошук і ў электронным выглядзе.

Ажыццяўляючы экскурсію па будынку рыксдага можна ўбачыць, сярод іншага, працы вядомых шведскіх мастакоў і скульптараў. Варта наве-даць таксама інфармацыйны цэнтр парламента, дзе можна сустрэць палі-тыкаў, азнаёміцца з экспазіцыяй, пашукаць інфармацыю ў банку дадзе-ных. Акрамя таго, на старонцы **www.riksdagen.se** ў Інтэрнэце можна знайсці ўсе неабходныя звесткі пра парламент і пра пытанні, над якімі працуюць народныя выбраннікі.

***Падрыхтаваў Валянцін Аскірка***

# Палітычныя партыі

Швецыя краіна з парламенцкай дэмакратыяй. Кароль Карл XVI Густаф з'яўляецца галавой дзяржавы, не маючы, аднак, рэальнай палітычнай ўлады. Шведская манархія – цалкам канстытуцыйная. Прэм'ер-міністрам існуючага ўрада з'яўляецца сацыял-дэмакрат, старшыня Сацыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі Горан Пэрсан. Ва ўрадзе сацдэмы цесна супрацоўнічаюць з дзвюма іншымі парламенцкімі партыямі: Левай партыяй і Зялёнымі.

**Левая партыя** мае свае карані ў Шведскай сацыял-дэмакратычнай левай партыі, якая была заснавана ў 1917 годзе. У 1921 годзе партыя раскалолася на две часткі, большая стала Шведскай камуністычнай партыяй. Партыя двойчы змяняла сваю назву: у 1967 і 1990 гадах.



**Сацыял-дэмакратычная партыя** была заснавана ў 1889 годзе. Парламенцкая партыйная група арганізавалася ў 1906 годзе. За выключэннем непрацяглага перыяду Сацыял-дэмакраты кіравалі Швецыяй 44 гады запар (1932-1976) з іх – 15 у складзе кааліцый. З 1994 года сацыял-дэма-краты ізноў ва ўладзе. Першыя 18 гадоў свайго існавання партыя мела калектыўнае кіраванне. З 1907 года партыя набыла лідэра ў сучасным сэнсе. За ўвесь час сацыял-дэмакраты мелі 6 старшыняў, самым вядомым з якіх быў Олаф Пальмэ.



**Партыя зялёных** аб'яднала экалагічныя, антыядзерныя, праваабарончыя жаночыя грамадскія рухі, сфармава-лася як палітычная сіла ў 1981 годзе. З 1988 года (з перапынкам 1991-1994) партыя прадстаўлена ў рыкс-дагу.



**Партыя цэнтру** бярэ свой пачатак у Аграрным Саюзе, утвораным у 1913 годзе, а таксама нацыянальнай арганізацыяй фермераў, заснаванай у 1915 годзе. Аб'яднаўшыся ў 1922 годзе, аб'яднанні ўтварылі адзіны Аграрны Саюз. Партыя цэнтру прадстаўлена ў рыксдагу з 1918 года, а атрымала сучасную наз-ву толькі ў 1958 годзе. Партыя ўваходзіла ў кіру-ючую кааліцыю з сацыял-дэмакратамі ў 50-ыя гады. У 1976 годзе, калі правыя партыі выйгралі выбары, менавіта цэнтрыст стаў прэм'ер-міністрам. Партыя таксама ўваходзіла ў правячую кааліцыю з 1991 па 1994 год.



**Народная партыя** мае свае карані ў Ліберальнай партыі, каторая ўзнікла на палітычнай арэне на пачатку 20 стагоддзя. Народная партыя заснавана ў 1934 годзе, аб'яднаўшы некалькі ліберальных групаў. Партыя двойчы знаходзілася ў правячай каалі-цыі: у 1978 годзе (маючы свайго прэм'ера), а таксама ў перыяд 1991-1994.



**Партыя хрысціянскіх дэмакратаў** была заснавана ў 1964 годзе. Падчас выбараў 1985 года пры супрацоўніцтве з Партыяй цэнтру яна мела аднаго прадстаўніка ў парламенце. Партыя поўнавартасна прадстаўлена ў рыксдагу з 1991 года, а таксама з'ўлялася членам неса-цыялістычнага ўраду 1991-1994.



У 19 стагоддзі ў шведскім рыксдагу было некалькі кансерватыўных груп. Падчас дэбатаў аб бяспецы кансерватыўны рух атрымаў дадатковы імпульс, і ў 1938 годзе паўстала Кансерва-тыўная партыя, якая змяніла сваю назву на "Умераная партыя".



У 1906 годзе партыя сфармавала свой першы ўрад. У 70-я гады, а таксама ў перыя з 1991 па 1994 год умераныя былі ў складзе кіруючай кааліцыі, прычым у 90-х мела свайго прэм'ер-міністра.

**Некаторыя пытанні фінансавання палітычных партый у Швецыі**

Незалежныя палітычныя партыі, свабодная прэса і іншыя сродкі масавай інфармацыі, а таксама свабоднае фарма-ванне меркавання супольнасці з'яўляюцца фундаментальнымі элементамі дэмакратыі. Палітычныя партыі з'яўляюцца істотнымі фармавальнікамі грамадскай думкі і выконваюць значную ролю ў грамадстве, асабліва ва ўсеагульных выбарах. Яны даюць электарату альтэрнатывы, інфарма-цыю і магчымасць аказваць уплыў на развіццё грамадства, быць актыўнымі ўдзельнікамі працэсаў у краіне, а таксама прымаць значныя для супольнасці рашэнні.

Фінансавая падтрымка палітычных партый разглядаецца як неабходны элемент і мае вялікае значэнне для дэма-кратыі. Яна дае ўсім партыям, якія набылі канкрэтную колькасць месцаў магчымасць ажыццяўляць сваю палітычную актыў-насць на аснове доўгатэрміновасці, незалежнасці.

З 60-х гадоў галоўнай крыніцай прыбытку палітычных партый з'яўляюцца добраахвотныя ахвяраванні. Дзяржава, рыксдаг, а таксама муніцыпальныя ворганы і мясцовыя рады ажыццяўляюць фінансавую падтрымку партыям, якія атрымалі дэпутатскія мандаты на розных узроўнях. Існуюць таксама спецыяльныя правілы для паменшанай падтрымкі партый, якія згубілі мандаты.

На сённяшні дзень сума агульнай дапамогі дзяржавы і рыксдагу складае каля 30,75 мільёнаў доляраў ЗША штогод.

Палітычныя партыі атрымліваюць падтрымку ад дзяржавы на іх агульную дзейнасць

Памер гэтай дапамогі вызначаецца вынікам выбараў у рыксдаг. Партыі, якія не атрымалі месцаў у парламенце, таксама атрымліваюць фінансавую дапамогу пры ўмове, што яны набралі 2,5% галасоў выбаршчыкаў па ўсёй краіне ў адных з дзвюх апошніх выбарчых кампаніях.

Памер дапамогі вылічваецца схематычна і размяркоўваецца згодна вызна-чаных правілаў. Над гэтымі сродкамі няма кантролю з боку грамадства.

Дзяржаўная фінансавая падтрымка складаецца з дзвюх частак: дапамога партыі і офісная дапамога. Першая частка плаціцца з разліку занятых у рыксдагу месц, прымаючы да ўвагі вынікі апошніх двух выбараў у рыксдаг і складае калдя 35000 доляраў ЗША на адно месца ў парламенце.

Офісная дапамога выплочваецца партыям, якія патрапілі ў рыксдаг, як асноўную і дадатковую дапамогу. Першая частка складае 0,6 мільёнаў доляраў ЗША для партый, якія дасягнулі на выбарах 4%. Дадатковая дапамога складае каля 1700 доляраў ЗША на кожнае месца ў парла-менце для кіруючай партыі і каля 2500 доляраў ЗША для рэты партый.

**Фінансавая падтрымка дзейнасці дэпутатаў парламенту і партыйных фракцый**

Партыйныя фракцыі атрымліваюць дапамогу рыксдагу ў якасці асноўнай часткі, а таксама на палітычных памочнікаў дэпутата і міжнародныя паездкі. Асноўная частка складаецца з дзвюх: асноўнай і дадтковай (залежыць ад колькасці дэпутатаў у парламенцкай групе). Асноўная частка складае каля 190000 доляраў ЗША у год. Прычым кіруючая партыя атрымоўвае толькі гэтыя грошы, рэшта ж – у 2 разы большую. Дадатковая складае больш за 6000 доляраў ЗША на кожнага дэпутата групы ў год. Падтрымка палітычных памочнікаў і дарадчыкаў павінна пакрываць выдаткі на адміністрыраванне і даследчую дапамогу дэпутатам. Разлічваецца гэтая дапамога з разліку аднаго дарадчыка на двуг дэпутатаў фракцыі (каля 4000 доляраў ЗША у месяц).

Фінансавая падтрымка прадугледжвае наведванне дэпутатамі міжнародных канферэнцый за мяжой. Яна складае 625 доляраў на кожнае з першых 20 месцаў парламенцкай групы і ў 2 разы меньшую на кожнае наступнае месца. За 2000 год фінансавая падтрымка партыйных фрак-цый склала каля 13 мільёнаў доляраў ЗША. Сакратарыяты партый у рыксдагу атрымоўваюць таксама для сваёй працы тэхніку і расходныя матэрыялы ў будынку рыксдагу.

**Падтрымка ад мясцовых уладаў**

Муніцыпалітэт і мясцовая рада могуць даць фінансавую падтрымку і іншую магчымую дапамогу партыям, якія прадстаўлены ў мясцовых органах улады. Напрыклад у 1998 годзе агульная сума фінансавай падтрымкі склала каля 40 мільёнаў доляраў, затое ў 1999 – усяго каля 22 мільёнаў.

| Партыя | Сума, млн.доляры ЗША |
|---|---|
| СД | 9,9 |
| Умераная партыя | 6,6 |
| Левая партыя | 3,8 |
| Хрысціянскія дэмакраты | 3,7 |
| Цэнтрысцкая партыя | 2,3 |
| Народная партыя | 2,2 |
| Партыя зялёных | 2,1 |

*Падрыхтаваў Валянцін Аскірка*

# Жанчына ў патрыярхальным грамадстве

У нашыя дні часам можна пачуць думкі пра няроўнасць паміж мужчынамі і жанчынамі, усё часцей гучыць гэтае незразумелае слова “фемінізм”. Але чаго ж хочуць гэтыя феміністкі? За што яны змагаюцца? У нас, здаецца, няма ніякіх заканадаўчых абмежаванняў для грамадскай, палітычнай і эканамічнай дзейнасці жанчын. Па закону ў нас усе роўныя, а тое, што традыцыйна роля жанчыны асэнсоўваецца як роля хатняй гаспадыні, жонкі, маці, з’яўляецца натуральным і нават не падвяргаецца сумненню. А калі жанчына захоча стаць прызідэнтам, ці крутым бізнесменам, ці ўвогуле дасягнуць высокага становішча ў якой-небудзь сферы жыцця, то, як гаварыцца, карты ёй у рукі. Аднак жанчын усё больш можна знайсці на нізкааплочваемай працы, сярод беспрацоўных ці на самым нізе службовай лесвіцы. Дык у чым жа справа?

Калі прыгледзецца, то можна ўбачыць, што нашае грамадства па-рознаму ставіцца да мужчын і жанчын. У нас стагоддзямі ішло размеркаванне паміж мужчынскімі і жаночымі сацыяльнымі ролямі, у выніку трывала замацаваўся патрыярхальны тып культуры, у аснове якога ляжыць іерархія, калі мужчынскае разумеюць як дамінуючае, а жаночае – як падпарадкаванае. Такім чынам, і жанчыны, і мужчыны аказваюцца “ахвярамі” традыцыйнай сістэмы норм і стэрэатыпаў. Захоўваць гэтыя стэрэатыпы нам дапамагаюць СМІ (рэкламы), спецыфічна мужчынскія і жаночыя часопісы, ды і ўвесь уклад нашага жыцця. А між іншым, гэтыя стэрэатыпы (пералічым некаторыя: мужчына павінен зарабляць больш за жонку, хатняя праца, выхаванне дзяцей – прыярытэт жонак, ды і ўвогуле, галоўнае для жанчыны – добра выйсці замуж, ды нараджаць сыноў, каб працягнуць род мужа) ставяць жанчын у залежнасць ад мужчын, пазбаўляюць права на паўнацэннае самавызначэнне. Мы нават не заўважаем, як расце жаночая беднасць, эканамічныя рэформы прывялі да беспрацоўя, зніжэння сацыяльных гарантый, і ў большай ступені гэта адбілася на матэрыяльным становішчы жанчын. Перадузятыя адносіны і стэрэатыпы наконт жанчыны-кіраўніка перашкаджаюць пад’ёму жанчын па службовай лесвіцы і гэтак далей.

Можна гаварыць і аб дыскрымінацыі жанчын у сферы палітыкі. Палітычныя правы з’яўляюцца прынцыпіяльна важнымі, базавымі, якія дазваляюць грамадзянам адстойваць усе астатнія правы. І што мы маем ў палітыцы? Жанчын ва усіх палітычных структурах у дзясяткі разоў менш, чым мужчын, яны не прадстаўлены на ўзроўні прыняцця палітычных рашэнняў, а гэта значыць не ў стане ўплываць на ключавыя рашэнні ў сацыяльнай, эканамічнай і палітычнай сферах. У выніку мы атрымоўваем заканадаўства, якое прызначана абараняць перш за ўсе інтарэсы мужчын. Не сакрэт, што жанчына і мужчына па-рознаму глядзяць на свет. І гэта добра. Улік двух розных светапоглядаў прывядзе да больш збалансаванай і пісьменнай дзяржаўнай палітыкі, да таго ж будуць улічаны інтарэсы ўсіх груп насельніцтва, а 53 % жыхароў краіны – жанчыны, і гэта прывядзе да дэмакратычнага грамадства.

І тут ад паняцця “роўнасць правоў” трэба перайсці да паняцця “роўнасць магцымасцяў”, а менавіта:

На жанчыне ляжыць увесь цяжар абавязкаў звязаных з мацярынствам і хатняй працай. А што такое вольны час? Гэта магчымасць для самаўдаскалення, асабістага роста. Таму жанчыны павінны мець роўныя правы не толькі на працы, але і хатнія абавязкі павінны быць размеркаваны раўнамерна паміж мужам і жонкай.

Нашае грамадства заўсёды хацела бачыць жанчыну ў першую чаргу ў сям’і, таму ў нашай краіне не робіцца ніякіх захадаў, каб роўнасць, якая занатавана на паперы, рэалізавалася на практыцы.

Бацькі, прытрымліваючыся традыцыйных стэрэатыпаў аб жаночай і мужчынскай ролях, бессвядома выхоўваюць сваіх дзяцей у духу патрыярхальнай культуры, прывіваючы ім пэўныя стэрэатыпы.

Такім чынам, мы ствараем штучныя бар’еры, якія перашкаджаюць жанчынам заняць роўнае з мужчынамі месца на ўсіх ўзроўнях грамадства.

Праблема раўнапраўя на Захадзе вельмі значная і мае вялікае грамадска-палітычнае гучанне ў параўнанні з Беларуссю. Гэта ж не значыць, што ў нас жанчыны не думаюць, як існаваць ім у гэтым свеце, як сумяшчаць паспяховую кар’еру і шчаслівую сям’ю, як будаваць партнерскія ўзаемаадносіны з мужам і гэтак далей. Але калі на захадзе гэтыя пытанні ў грамадстве выносяцца на пярэдні план, то ў нас кожны стараецца вырашыць гэтую праблему сам, імкнучыся “не выносіць смецце з хаты”.

Дык можа надышоў час і нам паглядзець праўдзе ў вочы, ды ўзняць праблему роўнасці да ўзроўню грамадскага абмеркавання. Бо не будзе дэмакратычнага грамадства, пакуль не будуць забяспечаны роўныя правы ўсім людзям незалежна ад іх палавовой прыналежнасці.

*Падрыхтавала*
*Аксана Мілюн*

*Інфармацыйны бюлетэнь Гродзенскай гарадской арганізацыі Грамадскага Аб’яднання МГ «ГРАМАДА» выходзіць на беларускай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.*
*Пры перадруку спасылкі на бюлетэнь неабавязковыя.*

*Адрас для карэспандэнцыі:*
*230003, Гродна-3, а/с 62*
*E-mail:* hramada.news@usa.net